# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 9 (170), 1 САКАВІКА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ



# Аляксей ДУДАРАЎ: "МОЙ АДРАС — БЕЛАРУСЬ"



**— Кожны творца, мастак, натуральна, марыць пра творчасць надпартыйную, апалітычную, бо найважнейшы аспект мастацтва — псіхалогія чалавека. Але гэта толькі мары. Гісторыя чалавецтва сведчыць, што на долю інтэлектуалаў выпадала і выпадае іншая місія — фармуляваць і даносіць да шырокага люду вызначальную ідэю, скрозь прызму якой народ разумее існасць жыцця і перспектывы. Як бы інтэлектуал не імкнуўся замкнуцца на ўласных праблемах, сваіх рэфлексіях, жыццё падкідвае такія тэмы сацыяльнага, палітычнага ўзроўню, ад якіх не адмахнешся. Так ці інакш палітыка ўваходзіла і ў Вашы творы. У "Радавых" — пацыфісцкая ідэя. У "Парозе" адлюстравана маральная дэградацыя так званага звычайнага савецкага чалавека. У "Вечары" — пагібель вёскі і вясковай, традыцыйнай маралі. Ці не здаецца Вам, што сённяшні мастак павінен пазбаўляцца сваёй грамадскай пасіўнасці, займацца непасрэдным асветніцтвам, а то і ўвогуле далучацца да палітычнага жыцця?**

— Па вялікім рахунку чалавек, які займаецца творчасцю ці служыць Богу, не павінен займацца палітыкай. У нармальнай дзяржаве мастак, як правіла, апалітычны, бо там адпрацаваныя заканадаўства, логіка палітычнага і грамадскага жыцця. У нас жа сітуацыя абсурдная. Мы жывем у дзяржаве, кіраўнікі якой імкнуцца аб'яднацца з суседняй дзяржавай, якая вядзе грамадзянскую вайну. Натуральна, сусед дапамагае тушыць, але найперш ад агню адгароджваецца, каб полымя не перакінулася на яго сядзібу. У нас жа наадварот: за нейкую ўяўна танную нафту гатовыя свой дом падставіць пад агонь. Ці мае права інтэлігенцыя маўчаць у такой сітуацыі? Не! Слухалі кебічаўскія казкі, працягваем выслухоўваць іх новыя версіі ад цяперашніх кіраўнікоў. Не трэба быць эканамістам, каб зразумець, што ўсё мае свой рэальны кошт і танней яго ніхто нам нічога не прадасць. Нават калі танная нафта і паступіць з Расіі ў Беларусь, яна да нашага спажыўца не дойдзе, будзе захоплена пэўнымі структурамі і па больш высокіх цэнах перапраўлена ў Літву ці яшчэ далей, а то і ў Расію вернецца. Ад прамыслоўцаў я нядаўна даведаўся, што ўжо зараз камплектуючыя, якія найважнейшым аргументам выступаюць у нашых палітыкаў, на ўнутраным расійскім рынку каштуюць даражэй, чым на сусветным. Трэба ладзіць уласную гаспадарку, рабіць уласную краіну, якая была б адчыненай для ўсяго свету, у тым ліку, але не найперш, і для Расіі. А нас ужо нават на рэферэндум клічуць, галасаваць супраць сваіх святыняў — мовы, герба, сцяга. Гэта ж нонсэнс, палітычны, чалавечы, калі кіраўнік дзяржавы паўстае супраць дзяржаўнай сімволікі. Дадумацца ж трэба...

**— Гэта не што іншае, як замах на Канстытуцыю, у якой абвешчана суверэннасць Беларусі, вызначаны статус беларускай мовы як дзяржаўнай. У Асноўным Законе замацаваны і прынцып нейтралітэту нашай краіны. Усё тое, што выклікала павагу да нас у сусветнага супольніцтва, што прадэманстравала нашу волю на будаўніцтва незалежнай дзяржавы, прэзідэнтам, які мусіць быць гарантам непарушнасці Канстытуцыі, ставіцца пад сумненне.**

— І гэта сапраўды так. Дзвесце гадоў на нашай зямлі, якая называлася Расійскай імперыяй, да закону ставіліся так, як скажа цар. Спадзяванне толькі на Вярхоўны Савет, ці гэты, ці той, які мы абярэм у маі, што ён будзе абараняць Канстытуцыю і нікому, у тым ліку і прэзідэнту, не дазволіць рабіць антыканстытуцыйныя крокі. Думаю, што і інтэлігенцыя, тыя людзі, якіх нацыя вынесла крыху вышэй, скажа сваё слова: не заклікі да экстрэмісцкіх дзеянняў, а тлумачэнні людзям, каб яны адчулі ў рэшце рэшт сябе годнымі людзьмі. Калі мы пратэстуем супраць нейкіх імперскіх расійскіх захадаў, гэта не значыць, што тут "антирусские настроения". У нас ледзь не трэцяя частка насельніцтва — руская. Большасць з іх лічаць сябе патрыётамі гэтай зямлі, задумваюцца, як будуць жыць іх дзеці і ўнукі, што тут будзе. Што б мне ні казалі, я не хачу, каб мой сын праз пяцьдзесят гадоў вяваў дзеля добраахвотнага далучэння Чачні да Расіі.

*(Працяг на стар. 3)*

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# ВЫПРАБАВАННЕ МЫТНЯЙ

Летась народны ансамбль танца "Сеніца" чарговы раз быў запрошаны ў Італію камітэтам па культуры правінцый Урбіна і Пезара, дзякуючы намаганням яго прэзідэнта Франка Угучоні. "Калектыў "Сеніца" ўжо вядомы ў нашых правінцыях", — пісаў у запрашэнні сіньёр Угучоні. — Але нашым гледачам вельмі спадабаліся танцы і музыка, якія далучаюць вашу культуру да агульнаеўрапейскай".

Зразумела, што вельмі прыемна чытаць такія радкі і ганарыцца нашай нацыянальнай культурай, якая становіцца вядомай за мяжой.

І не трэба нікому тлумачыць, што самадзейнае мастацтва на ўзроўні з прафесійным таксама з'яўляецца візітнай карткай Рэспублікі Беларусь і ўзмацняе яе суверэнітэт.

Ансамбль "Сеніца" паказаў сваю праграму ў адзінаццаці гарадах Італіі. Многія нумары выконваліся на "біс". І мы ўпэўнены, калі ў гэтыя гарады завітаюць іншыя беларускія гурты, то ўжо ніхто не будзе пытаца:"Адкуль вы?" Падобнае пытанне не ўзнікне таксама ў акрузе галандскага горада Файнарта пасля выступлення народнага ансамбля песні і танца "Спатканне", у бельгійскім горадзе Хасальт, дзе прымаў удзел у фальклорным фестывалі калектыў мастацкай самадзейнасці Крупіцкага сельскага Дома культуры, у французскіх пансіянатах для хворых, дзе гучаў "Бараўлянскі гармонік".

Я ўжо не кажу пра знакамітых "Крупіцкіх музыкаў", добра вядомых у заходніх краінах. Толькі мінулым летам яны зарабілі ў Германіі 15 тысяч нямецкіх марак і пералічылі іх у фонд будаўніцтва медыцынскага цэнтра ў сваёй вёсцы Крупіца.

Так, самадзейнае мастацтва робіць добрую справу. Кожны год 4-5 калектываў з Мінскага раёна на мове танца і музыкі расказваюць за мяжой пра нашу родную Беларусь. Такі актыўны культурны абмен стаў магчымым пасля арганізацыі ў раёне Міжнароднага фестывалю фальклору "Жыцень", які праводзіўся ў мінулым годзе ў чацвёрты раз з удзелам Бельгіі, Іспаніі, Італіі, Расіі, Украіны.

Але мала хто ведае, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца аддзел культуры райвыканкама, каб накіроўваць калектывы на фестывалі за мяжу. Дзяржаўныя сродкі на гэтыя мэты раённым і абласным бюджэтам не прадугледжваюцца. Міністэрства культуры і друку іх таксама не выдзяляе: хапіла б на камандзіроўкі прафесійнаму мастацтву. А грошы патрабуюцца немалыя. Напрыклад, паездка ансамбля "Сеніца" ў Італію каштавала больш за 3 тысячы долараў ЗША. Прычым Італія — адзіная краіна, якая не бярэ платы за ўязныя візы. І пачынаюцца пошукі спонсараў, танных аўтобусаў, перамовы з аргкамітэтамі фестываляў. У выніку мы хутчэй дамаўляемся з тымі, хто нас запрашае, а яны часткова кампенсуюць асабістыя выдаткі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці.

Але галоўная кампенсацыя — гэта сцэна і ўдзячныя гледачы, якіх бывае на канцэртах не адна тысяча. Не думайце, што Заходнюю Еўропу сёння запаланіла эстрада. На мерапрыемствах фестываляў можна ўбачыць людзей розных узростаў, шмат моладзі. І калі, напрыклад, італьянцы збіраюцца разам, яны спяваюць свае народныя песні. У гэтым мы вельмі падобныя адзін да аднаго.

Яшчэ ў Мінску ты пазнаеш, што такое мытня. Дэкларацыю на вываз музычных інструментаў, абутку і адзення для ўдзельнікаў самадзейнасці можна атрымаць праз 2-3 дні, займаючы чэргі ў 6 гадзін раніцы. Потым чэргі ў консульскі аддзел Міністэрства замежных спраў... і самая доўгая чарга на кантрольна-прапускных пунктах.

Калектывы мастацкай самадзейнасці сустракаюць кіламетры "чаўночных" аўтобусаў. Каму тут да культурных абменаў! Нават зборы "за экалогію" мы павінны плаціць па рашэнні Гродзенскага аблвыканкама. Ніякія ўгаворы, ніякія позіркі дзяўчат з ансамбля не кранаюць душ вартаўнікоў мяжы. А бывае хто і прапусціць без агульнай чаргі, і ты, удзячны гэтаму мудраму беларусу, думаеш, ну, чаму ў нас культурныя зносіны не з'яўляюцца падставай для зялёнай вуліцы? Калі гэта ўжо зразумеюць беларусы, якія працуюць у Мінску, дзе пішуцца ўсе законы, як разумеюць нас за мяжой і сустракаюць ветлівай усмешкай?

Як растлумачыць сітуацыю, якая склалася на беларускай граніцы, аматарам народнай творчасці, якія пасля працы свой вольны час аддаюць на рэпетыцыі і якія з гонарам нясуць дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь па вуліцах замежных гарадоў? На нашай жа роднай зямлі адчуваюць яны сябе, на жаль, нямёнка.

**Руслана РЭУТ,**
**загадчыца аддзела культуры Мінскага райвыканкама**

# МАГУТНАЯ КУЛЬТУРА МАГУТНАЙ ДЗЯРЖАВЫ





23 — 26 лютага ў Мінску прайшлі Дні культуры братняй дзяржавы — Украіны. Напэўна, многія жыхары сталіцы наведалі хай сабе адну са шматлікіх імпрэзаў — канцэрт зорак оперы і балета або камернай музыкі, выставу ўкраінскай кнігі або жывапісу, фестываль украінскага кіно або гала-канцэрт зорак украінскай і беларускай эстрады... Аб размаху Дзён сведчыць ўжо той факт, што Міністэрства культуры і друку Беларусі выдаткавала на іх свой трохмесячны бюджэт урачыстых мерапрыемстваў. Магчыма, гэтым сродкам (заўважым, ганебна сціплым) магло знайсціся іншае прыкладанне, але нельга недацэньваць значнасць для нашага духоўнага жыцця кантынента культуры пад назвай "Украіна".



Міністры культуры абедзвюх дзяржаў — А.Бутэвіч і М.Яковына падпісалі дамову аб перспектывах супрацоўніцтва паміж міністэрствамі і творчымі арганізацыямі. Мяркуецца праводзіць супольныя фестывалі, ажыццявіць вялікую праграму перакладаў сучаснай літаратуры.

Магчыма, найбольшы плён гэтых Дзён — тое, што яны дазволілі сустрэцца старым знаёмцам і сябрам — славутым, але катастрафічна збяднелым дзеячам культуры абедзвюх краін. Вельмі ўзрушальна было бачыць радасць гэтых спатканняў...

На сустрэчы ў Доме літаратара гучалі словы, якія выявілі, напэўна, нашае агульнае ўражанне: "Магутная была праграма гэтых Дзён, і адчуваецца, якая магутная дзяржава была прадстаўлена на іх".

**Ю.Б.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# СЛОВА ЛАТВІІ Ў БЕЛАРУСКІМ ПАРЛАМЕНЦЕ

У Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя дэлегацыі Сейма Латвійскай рэспублікі, што наведала з афіцыйным візітам нашу краіну. Кіраўнік дэлегацыі, намеснік Старшыні Сейма Айварс Беркіс з задавальненнем адзначыў пленнасць асабістых сустрэч з парламентарыямі і кіраўніцтвам дзяржаўнага апарату Беларусі. Асабліва прыемна прадстаўнікам ужо не бліжняга замежжа было пазнаёміцца са старшынёй Нацбанка С.Багданкевічам, які паслядоўна выступае за эканамічныя рэформы: іхняя адсутнасць, на жаль, усё далей разводзіць эканомікі і народы нашых краін.

Адказваючы на пытанне адносна "дыскрымінацыйнага" закону аб грамадзянстве, пан Беркіс падкрэсліў, што ў гарамадзянстве пакуль адмоўлена не толькі многім славянам, але і 25 тысячам латышоў. Беларусь і Латвія апынуліся ў аднолькавай сітуацыі: яны маюць вялікі працэнт рускамоўнага насельніцтва. Але Латвія, у адрознасць ад паўднёвай суседкі, лічыць галоўнай задачай дзяржавы захаванне нацыянальнай культуры.

Ў Латвіі цалкам забяспечваецца свабода друку, хоць кантроль з боку "чацвёртай улады" непрыемны для парламента і ўрада.

Латвія з насцярожанасцю назірае за будаўніцтвам вялікай радыёлакацыйнай станцыі ў ваколіцах Баранавіч. Гэты ваенны расійскі аб'ект, безумоўна, абцяжарыць экалагічны стан баранавіцкага рэгіёна. А галоўнае — у выпадку вайны яго будуць атакаваць першым, а гэта вельмі небяспечна для Латвіі: для радыяцыі гэта не адлегласць. Пан Беркіс паабяцаў, што латвійскі бок перадасць Беларусі матэрыялы экалагічнай экспертызы выпраменьвання аналагічнай станцыі, што знаходзіцца паблізу горада Скрундэ.

У прэс-канферэнцыі браў удзел першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаслаў Кузняцоў. Ён падкрэсліў, што дамоўленасць аб будаўніцтве ваенных аб'ектаў Расіі на нашай зямлі яшчэ не ратыфікаваная і патрабуе юрыдычнай і экалагічнай экспертызы. Што датычыцца беларускалатвійскіх адносінаў, яны будуць развівацца ў рэчышчы ўсеабдымнага дагавора аб супрацоўніцтве паміж нашымі дзяржавамі: распрацоўка яго ўжо пачалася.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ПАКУЛЬ ЧАКАЛІ ЕЛЬЦЫНА...

***Хроніка аднаго здарэння***
*Мінск, 21 лютага 1995 года, каля 13 гадзін.*

Недзе апоўдні ў аэрапорце Мінск-2 прызямліўся самалёт Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына, які па дарозе з аэрапорта ў рэзідэнцыю, дзе адбудуцца яго перамовы з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, павінен ускласці вянок да помніка воінам і партызанам на плошчы Перамогі.

Ніхто не ведае дакладна а якой гадзіне адбудзецца цырымонія, але плошча ўжо акружана з усіх бакоў сотнямі міліцыянтаў — перакрыты ўсе падыходы да яе.

Перакрыта і вуліца Кісялёва — вялізным аўтобусам, пастаўленым упоперак, і дзвюма шарэнгамі хлопцаў-амонаўцаў. Праўда, без зброі. Падыходжу да плошчы па вуліцы Кісялёва — мне трэба на другі бок, на вуліцу Фрунзэ,5, у Дом літаратара, дзе на 14.30 прызначана сустрэча з членам расійскай дэлегацыі, знакамітым рускім паэтам Канстанцінам Ваншэнкіным, на якую я запрошаны.

Застаюся стаяць у натоўпе, што таўчэцца каля магазіна "Мяса — малако". Паглядаю на гадзіннік: час да сустрэчы з Ваншэнкіным яшчэ ёсць, бо я выйшаў загадзя, меўся яшчэ зайсці ў бібліятэку Дома літаратара...

У натоўпе стаіць пажылы чалавек у добрым паліто, у скураных пальчатках, у футравай шапцы. У руках ці то торбачка, ці то кошык. Раптам чалавек гэты павольна і неяк падкошана апускаецца на калені, стукаецца галавой аб камель старой ліпы. І валіцца на бок. Твар яго чарнее на вачах.

Падбягае афіцэр-амонавец, супакойвае ляментуючых людзей, выклікае па сваёй рацыі хуткую дапамогу. Яна прыязджае мінут праз 30 — 40 — вядома ж, усе вуліцы перакрыты... Урач хуткай дапамогі канстатуе смерць. Напэўна, ад вострай каранарнай недастатковасці...

Калі міліцыянты крыху пазней дастаюць з кішэні памерлага чалавека яго дакументы, знаходзяць у іх медыцынскую карту, нітрагліцэрын.

Мы ўжо ніколі не даведаемся, што прывяло гэтага чалавека да плошчы Перамогі. Можа, хацеў паглядзець на Прэзідэнта Ельцына, ды і на свайго Прэзідэнта, павітаць іх, а можа, проста ішоў па свой пенсіянерскі кефір, у краму. Убачыў, што навокал робіцца, і расхваляваўся. Можа, і абурыўся — тым, што невядома калі скончыцца гэтая "ахоўная асада" плошчы, калі можна будзе, нарэшце, зайсці ў краму.

Ён пралежаў на тратуары гадзіны паўтары. Нехта прыкрыў яму твар шапкай, а потым аднекуль прынеслі белую сурвэту. Вывезці адсюль цела адразу пасля смерці не было магчымасці.

Падышла да мёртвага нейкая жанчына, паглядзела, неяк дзіўна ўсміхнулася і сказала: "Ну, вот, один уже воссоединился..."

А вакол нябожчыка працягвалася, віравала жыццё з усімі яго сённяшнімі страсцямі. Над нявялічкім натоўпам моладзі ўзняўся саматужны плакат, на якім было напісана нешта наконт Чачні, наконт забойства, якое там адбываецца. Аднак плакат у імгненне вока выхапілі і парвалі на шматкі маладыя людзі ў цывільным.

Звяртаюся да афіцэра-амонаўца: "Чаму трэба адбіраць і рваць на шматкі плакат? Хіба людзі не маюць права выказаць сваю думку, свой пратэст?" Афіцэр глядзіць на мяне злосна: "Конфронтации хотите? Чтобы кровь пролилась, как в Чечне?" Адказваю: "Пакуль што і без крыві чалавек памёр. Вунь ляжыць... Чаму да яго нікому няма справы? Гэта ж не па-людску!.. І наогул, чаму трэба было на тры гадзіны закрываць праспект, ствараць абстаноўку надзвычайшчыны? Вядома, трэба, каб быў парадак, і ахоўваць высокага госця трэба, але ж нельга даводзіць усё да абсурду!"

Мяне не слухаюць, злосна махаюць рукой. Адзін з іх запрашае да міліцэйскага "газіка", просіць паказаць дакументы. Аднак усё заканчваецца строгім: "Ідзіце і супакойцеся..."

Нарэшце пачынаецца цырымонія, праз якіх 15-20 мінут (на гадзінніку ўжо 14.45) плошчу Перамогі адкрываюць.

А нябожчык усё яшчэ ляжыць на тратуары, прыкрыты белай сурвэтай. І міжволі згадваецца вядомая песня на словы Канстанціна Ваншэнкіна: "Я люблю тебя, жизнь, что само по себе и не ново..."

На жаль, нішто сапраўды не новае. Ні гэты смяротны выпадак (статыстычны!), ні палітычны тэатр нашага жыцця, у якім гэтая смерць "статыстычнай чалавечай адзінкі" нічога не значыць...

**Валянцін ТАРАС**

СІТУАЦЫЯ

НАШ ВЫБАР — ІНТЭЛЕКТ

# Аляксей ДУДАРАЎ: "МОЙ АДРАС — БЕЛАРУСЬ"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

**— Добраахвотнага далучэння не было, няма і не будзе... Часта можна пачуць, што незалежнасць выпадкова звалілася на галаву беларусам, і цяпер мы не ведаем, што з ёй рабіць. Ці так гэта? Увогуле, што дала народу незалежнасць? Чым пагражае нам яе страта ў выпадку аб'яднання з суседняй неабсяжных памераў краінай, якая, між іншым, у гэтым накірунку выяўляе апошнім часам надзвычайную актыўнасць? Якім Вы бачыце суіснаванне з усходняй дзяржавай?**

— Пытанне пра тое, што дала нам незалежнасць, калі не амаральнае, дык не карэктнае. І тым не менш, адкажу, бо яно пэўнымі коламі палошчацца. Першымі плён незалежнасці заўважылі беларускія маці, якія не атрымліваюць з Каўказа цынкавыя труны. Я не зларадніваю. Я чалавек, і мне балюча бачыць слёзы расіянак. Але я найперш думаю пра сваю краіну, якая (і гэта найвялікшая каштоўнасць) не ўдзельнічае ў крывавых авантурах Расіі. Будзе гэтая дзяржава весці разумную, шчырую палітыку — будзем з ёй супрацоўнічаць, як і з іншымі дзяржавамі свету. Што яшчэ дае незалежнасць? Права самому будаваць свой дом, спадзеючыся спачатку на свае сілы і, канешне, прымаючы дапамогу суседа, але толькі тады, калі яна шчырая. Спадзяванні на "халяву" да дабра не давядуць. Гэта жахліва, што народ наш навучыўся існаваць у чаканні цуду: нехта прыдзе, нешта дасць, і наступіць рай. Сумна, але яно так: ледзь не палова людзей марыць пра вяртанне Савецкага Саюза. Маўляў, тады зноў з'явіцца танная каўбаса. Але ні Савецкага Саюза ўжо больш не будзе, ні той каўбасы. З ілюзіямі жабракоў час развітацца. Мы пайшлі па рынкавым шляху. Зваротнай дарогі няма. Хтосьці з разумных палітыкаў сказаў, што той, хто не шкадуе пра развал СССР, чалавек без сэрца, але ў таго, хто хоча яго аднаўлення, няма галавы. Смешна глядзець на тых крыкуноў, якія заклікаюць "воссоздать Советский Союз", скасаваць белавежскія пагадненні. Добра, хай так, але як вярнуць балтыйскія краіны, Грузію? Бессэнсоўная палітычная настальгія. Трэба будаваць сваю дзяржаву, быць яе патрыётамі. Няма сярод нас нейкіх там у бальшавіцкім вытлумачэнні нацыяналістаў і нейкіх чорных кошак, што бегаюць паміж беларусамі і рускімі, яўрэямі ці палякамі. Мы багата пакутавалі і багата зразумелі, каб такое дзікунства сабе дазволіць. "Беларусь для беларусаў", — вядома, часам такі кліч можна пачуць, але хутчэй з вуснаў правакатараў і то рэдка.

**— Сёння шмат размоў пра калектыўную бяспеку, заключана пагадненне аб сумеснай з Расіяй ахове нашай заходняй мяжы.**

— Расстаноўка сіл, рэальная сітуацыя ў Еўропе такая, што нам няма каго баяцца. Зрэшты, нас ніколі ніхто не бараніў. Беларусь спрадвеку з'яўлялася палігонам, на якім вырашалі свае спрэчкі Усход і Захад. Успомнім паход Напалеона на Маскву і назад, першую і другую сусветныя войны. Я ўжо не кажу пра больш аддаленыя стагоддзі, калі і прамыя войны вяла з намі тая ж Расія. Вайна XVII ст. увогуле забрала жыцці больш паловы беларусаў. Расія сёння нас ні ад каго бараніць не будзе, а стане вырашаць свае інтарэсы на нашай зямлі. У нас хапае сваіх праблем — знішчаная мова, эканоміка ў заняпадзе, знявечаная чарнобыльская зона. Разлічваць мы можам толькі на сябе і на Бога, які не павінен нас пакінуць. Суседзі ж, як мінімум, хай нас пакінуць у спакоі, дадуць магчымасць разабрацца ў сваім доме. Калі вельмі хочуць абараняць, то чакай чарговай авантуры. Гісторыя таму сведка.

**— Доўгі час у Вас быў імідж багемнага маладога чалавека: піша, кланяецца, прэзентуецца. І раптам — сенсацыя: Вы пачалі рабіць палітычную кар'еру. Навошта Вам спатрэбілася ствараць і нават узначальваць новую партыю — Грамадзянскую?**

— Я разумеў, што будзе пэўны рэзананс, але пайшоў на гэта. Нехта ж павінен уздымаць свой голас у абарону народа. Я з простых людзей, сялянскі хлопец. Бог даў мне літаратурныя здольнасці, я атрымаў адукацыю. Трэба вяртаць свае веды, сваё разуменне сітуацыі ў цяжкі для нашай краіны час. Не палітыканствам трэба займацца, а несці людзям нацыянальна-дзяржаўную ідэю. Песенька "Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз" — гэта апраўданне безадказнасці. У мяне ёсць і адрас і вуліца — я жыву ў Беларусі. Гэта — мая Радзіма. Я за яе нясу адказнасць, а не за ўсё славянства. Вось зараз новы міфалагічны заклік нарадзіўся: давайце ўсіх славянаў аб'яднаем у адну дзяржаву. Новая хітрая інтэрпрэтацыя старой зашмальцаванай ідэі ўзнаўлення імперыі, якая пачнецца з "добраахвотнага ўз'яднання" рускіх, беларусаў, украінцаў. А палякі, чэхі, славакі, балгары — яны не славяне?

**— А куды мы падзенем татараў, яўрэяў, літоўцаў, што жывуць у Беларусі?**

— Сапраўды?.. Не трэба нікога ні па расавым, ні па рэлігійным прынцыпе аб'ядноўваць. Аб'ядноўвацца трэба грамадзянам. Хай расіяне будуюць сваю дзяржаву — Расію, палякі — Польшчу, украінцы — Украіну. А мы — сваю родную Беларусь. І з ветлівай усмешкай будзем сустракаць гасцей з Масквы, Варшавы, Кіева.

**— На працягу апошніх гадоў Вы з годнасцю называлі сябе нацыяналістам. Мне асабіста было прыемна гэта чуць, бо я ўсведамляю рэальны сэнс гэтага слова. Тым не менш, Вы не далучыліся да партый нацыянальна-радыкальнага кшталту тыпу БНФ, БСДГ ці Сялянскай. Ваша партыя — цэнтрысцкая, у яе праграме ёсць тэзы (наконт мовы, мытных саюзаў), якія пярэчаць пазіцыям нацыяналістаў.**

— Згодзен, што ў слове "нацыяналізм" ёсць дадатны сэнс. Паглядзіце, што адбываецца. Калі гаворка заходзіць пра беларускі нацыяналізм, пачынаецца лямант, за сэрцы хапаюцца: разбойнікі! Іншым жа народам на гэта даецца права. У Расіі нацыяналісты і ў Думе засядаюць. Да нас нават расійскія фашысты могуць прыехаць і весці тут сваю агітацыю. А праваахоўныя органы Беларусі тым часам ловяць нейкіх выдуманых турэцкіх ці польскіх "шпіёнаў". Дзякуй Богу, людзі нашы больш разумныя і пільныя за КДБ і МУС: узялі і далі па карку маскоўскім шчанюкам, як у свой час Жырыноўскаму. Хай коцяцца туды, адкуль прыехалі. Я, беларус, стаўлю знак роўнасці паміж словамі "беларус" і "нацыяналіст". Што тычыцца радыкалізму, то ў мяне, не ведаю, добра ці не, класічны беларускі характар. Я памяркоўны. Мне таксама хочацца, каб з заўтрашняга дня родная мова загучала ўсюды, але ж гэта немагчыма. Разумею, што павінен ісці навукова абгрунтаваны дыялектычны працэс. І ён не дэкляравацца павінен, а выконвацца. Нельга прымушаць, нельга пазбаўляць бацькоў права выбару для дзяцей мовы адукацыі. Хочаце, каб ваш сын навучаўся на польскай мове, пасылайце ў прыватную школу. Але ведайце, калі ён не будзе ў поўным аб'ёме валодаць беларускай, не зможа стаць прэзідэнтам ці нават дзяржаўным служачым. Я аддаю даніну павагі ўсяму таму, што зрабіў для Беларусі БНФ, але і разумею: у нашай краіне яшчэ багата людзей, якіх пужае само слова "нацыяналіст". Таму і патрэбна такая цэнтрысцкая партыя, якая выступае за рынкавыя рэформы, дэмакратычныя пераўтварэнні, суверэнітэт дзяржавы. Галоўнае — трэба зрабіць усё, каб зберагчы сваю краіну, тады і ў нюансах разбярэмся: мы ж людзі адной зямлі.

**— У сувязі з Вашай партыяй я адзначаю адну цікавую акалічнасць: мы ўпершыню сутыкаемся са звязам інтэлектуалаў з прадпрымальнікамі, новымі капіталістамі. Як Вы ставіцеся да таго, што ў прэсе прамільгнула думка, што нібыта некаторыя партыі (мяркую, што Ваша якраз і мелася на ўвазе) прыкрываюцца гучнымі імёнамі?**

— Адмаўляць да канца гэта нельга. Кожны палітычны рух павінен прыцягваць да сябе ўвагу. Але галоўнае — усё тое, пра што мы гаворым. Што тычыцца праблемы "культура і бізнес", то тут таксама ўсё зразумела, бо ні культура, ні мастацтва, ні інтэлектуалы сёння нашай дзяржаве непатрэбныя. Мы можам спадзявацца толькі на тых, хто, пры ўмове нармальных законаў, будзе пра нас клапаціцца. Ва ўсім свеце толькі адзінкі з ліку людзей, што займаюцца мастацтвам, становяцца багатымі. Астатнія ж павінны мець магчымасць хоць больш-менш прыстойна жыць. Калі актрыса, якая іграе каралеву, не можа купіць сабе калготкі, без якіх яна не мае права выйсці на сцэну, гэта нонсэнс.

**— Ці не баіцёся вы, што стварэнне двух дэмакратычных перадвыбарчых блокаў расколе дэмакратычны рух? Ці ёсць у Вас надзея на разумны выбар народа ў маі?**

— Не думаю, што існуе раскол... Пэўныя разыходжанні маюцца толькі па некаторых, не самых прынцыповых, пазіцыях. Яшчэ будуць весціся перамовы, узгадненні. Але я ўпэўнены, што такога парламента, як гэты, больш не будзе. У былой наменклатуры цяпер шанцаў няма. Прыдуць людзі больш адукаваныя, якія, як мінімум, здолеюць адрозніць Сапегу ад П'ехі. Тым больш, што ўжо не браніруецца вызначаная колькасць месцаў пад ветэранаў і членаў розных там таварыстваў. Наменклатуршчыкам, якія толькі і ўмелі што камандаваць, ветэранам, якія ўжо па ўзросце былі кансерватыўнымі, прайсці будзе нялёгка. Значыць, знікне большасць, якой было лёгка маніпуляваць і якая ўшчэнт разбівае прагрэсіўныя ідэі апазіцыі. Надзеі ёсць, але ўсё залежыць ад свядомасці людзей...

**Гутарыў Вячаслаў РАКІЦКІ**

# ЯШЧЭ АДНО ІМЯ ВЯРТАЕЦЦА

Імя гэтага чалавека мала каму вядомае, за выключэннем хіба спецыялістаў гісторыкаў і аматараў даўніны. Толькі цяпер беларусы вяртаюць з нябыту не толькі сваю гісторыю, але і постаці дзяржаўных дзеячаў, палкаводцаў, дыпламатаў і манархаў.

Да ліку такіх належыць і Мікалай Радзівіл (1515 — 1565), які меў мянушку Чорны (паводле колеру сваёй барады).

Мікалай Радзівіл (поўнае імя пры хрышчэнні Мікалай Крыштоф) нарадзіўся ў драўляным замку ў Нясвіжы, які належаў тады ягонай маці Ганне Кішчанцы з магнацкага роду Кішкаў.

Хлопчык рана застаўся сіратою і выхоўваўся пры каралеўскім двары Жыгімонта Старога ў Кракаве. Атрымаў някепскую хатнюю адукацыю, добра ведаў беларускую і польскую мовы, а міжнароднай мовай тых часоў — лацінскай — валодаў недастаткова. У 1535 годзе ўдзельнічаў у вайне з Масквою ў раёне Старадуба разам са сваім палком (выстаўленым са сваіх маёнткаў) у войску пад началам свайго дзядзькі, гетмана найвышэйшага Юрыя Радзівіла, удзельніка бітвы пад Оршай у 1514 годзе. Аднак вайсковай кар'еры малады Радзівіл не зрабіў, а стаўся дыпламатам і дзяржаўным дзеячам.

У 1544 г. Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў прызначэнне на пасаду маршалка вялікага літоўскага, у 1550 г. — канцлера вялікага літоўскага, у 1551 г. — ваяводы віленскага (першага сярод ваяводаў у дзяржаве). Да канца жыцця Радзівіл быў на ўсіх гэтых пасадах адразу, а гэта рэдкі выпадак у тагачаснай практыцы. Фактычна ён становіцца намеснікам вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве, паколькі сам вялікі князь, ён жа кароль польскі, большую частку свайго часу праводзіў у каралеўстве Польскім. Асабліва ўплыў Мікалая Радзівіла Чорнага і яго стрыечнага брата Мікалая Радзівіла Рудога на дзяржаўныя справы ўзрос, калі малады кароль ажаніўся з Барбарай Радзівіл, роднай сястрой Мікалая Радзівіла Рудога. Уплыў на Жыгімонта Аўгуста захоўваўся і пасля смерці Барбары.

Мікалай Радзівіл Чорны дамогся заключэння сталага палітычнага саюзу Польшчы і Беларуска-Літоўскай дзяржавы з Габсбургамі. Гэтым было прадухілена заключэнне саюзнага дагавору паміж Германскай імперыяй і Маскоўскім царствам і гарантаваныя заходнія рубяжы напярэдадні вялікай і працяглай Лівонскай вайны з царом Іванам Грозным, якога на Беларусі празвалі Жахлівым.

Аднак, захоўваючы саюз з Польшчай, Мікалай Радзівіл Чорны быў працоўнікам федэратыўнай уніі з гэтай краінай. Ён паслядоўна адстойваў незалежнасць і самастойнасць Беларускай дзяржавы. Самому каралю Жыгімонту Аўгусту, польскім феадалам ды большасці беларускай шляхты спатрэбілася яшчэ некалькі гадоў пасля смерці гэтага чалавека, каб аб'яднаць Польшчу і Вялікае княства Літоўскае.

Унутрыпалітычная дзейнасць Мікалая Радзівіла Чорнага таксама была шматграннай. Ён адзін з ініцыятараў правядзення аграрнай рэформы на Беларусі і Літве, асветнік і дзеяч рэфармацыі, заснавальнік славутай Нясвіжскай друкарні. Тут працавалі Сымон Будны, Марцін Чаховіч, Ваўжынец Кшышкоўскі, перакладчык, друкар і прыдворны музыкант Цыпрыян Базылік і іншыя.

Грамадскасць Беларусі, камісія па культуры Беларускага народнага фронту "Адраджэнне", Беларускі эвангелічны рэфармацкі збор, Згуртаваньне беларускае шляхты, Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" стварылі арганізацыйны камітэт па святкаванні 480-х угодкаў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла Чорнага і падрыхтавалі шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку адкрыццё выставы, публікацыі матэрыялаў і інш.

Святкаванні пачаліся 4-га лютага г.г. у Доме літаратара адкрыццём навуковай акадэміі "Мікалай Радзівіл Чорны і яго час". З асноўнымі дакладамі выступілі Лявон Ліпень (Рэфармацыйная царква) "Жыццяпіс князя Мікалая Радзівіла Чорнага, або Крыжовым шляхам свабоды" і Анатоль Грыцкевіч (Згуртаваньне беларускае шляхты) "Палітычная дзейнасць Мікалая Радзівіла Чорнага". Даклады таксама прачыталі дацэнт Вольга Дадзіомава, Уладзімір Кананові́ч, Генадзь Сакалоў-Кубай, Лявон Акаловіч, прафесар Рафал Ляшчынскі з Польшчы. Канферэнцыя прайшла на высокім навуковым узроўні.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**

# 1995 — ГОД МІКАЛАЯ РАДЗІВІЛА ЧОРНАГА

## *Да грамадства і ўрада Беларусі*

Сёлета спаўняецца 480 гадоў з дня нараджэньня выдатнага дзяржаўнага, палітычнага і хрысьціянскага дзеяча Беларусі — князя МІКАЛАЯ РАДЗІВІЛА ЧОРНАГА (04.02.1515 — 28.05.1565).

МІКАЛАЙ РАДЗІВІЛ VI, выконваючы высокія і адказныя пасады ў нашай дзяржаве — Вялікага канцлера, віленскага ваяводы, старасты берасьцейскага, ковенскага, барысаўскага, Адміністратара Лівоніі, праводзіў цьвёрдую палітыку ўмацаваньня суверэнітэту Беларускага гаспадарства, умела ажыцьцяўляў аграрна-эканамічныя рэформы. Дзякуючы пасьлядоўнай незалежніцкай пазіцыі канцлера Радзівіла наша дзяржава дасягнула найвышэйшага росквіту, а грамадскае жыцьцё будавалася на юрыдычных прынцыпах нацыянальнага права.

Найвялікшы дыпламатычны дзеяч, князь МІКАЛАЙ РАДЗІВІЛ яшчэ ў XVI стагоддзі дальнабачна вызначаў новыя прыярытэты зьнешняй палітыкі нашай дзяржавы, якія вялі да больш цеснай інтэграцыі з краінамі Заходняй і Паўночнай Эроўпы.

Стараньнем і мецэнацкай падтрымкай нашага Вялікага канцлера ў Беларусі былі створаныя буйныя выдавецкія цэнтры, плённа прадоўжаны асьветніцкія традыцыі доктара Францішка Скарыны. Князь МІКАЛАЙ РАДЗІВІЛ добра валодаў беларускай, польскай, а таксама іншымі эўрапейскімі мовамі.

Уважаем за вялікі гонар абвясьціць 1995 год у Беларусі Годам МІКАЛАЯ РАДЗІВІЛА ЧОРНАГА й заклікаем беларускія дзяржаўныя і мясцовыя органы кіраваньня, установы культуры, навукі і адукацыі ўшанаваць памяць вялікага дзеяча нашай дзяржавы — Найясьнейшага князя МІКАЛАЯ РАДЗІВІЛА ЧОРНАГА.

**Камісія па культуры БНФ "Адраджэньне".**
**Беларускі эвангелічны рэфармацыйны збор.**
**Згуртаваньне беларускае шляхты.**
**Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".**

## ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

тады, з самага пачатку, ідэя не пускаць дзяцей у школу, пратэстуючы такім чынам супраць беларускага навучання, не знайшла сваіх прыхільнікаў. Магчыма, народ чатыры гады таму, не так змучаны цэнамі, інфляцыяй, рэформамі, быў больш законапаслухмяны. Магчыма, тады нават самыя заўзятыя прыхільнікі рускай мовы, гледзячы, як вучацца размаўляць па-беларуску дэпутаты і вялікія начальнікі, як з'яўляюцца беларускія шыльды і аб'явы, засумняваліся ў сваёй заўзятасці. Тады Закон канкрэтна ўступаў у сілу. Уступаў упэўнена і смела. Здавалася, з кожным годам яму павінна было б быць лягчэй і лягчэй.

Але... Пяты год яго жыцця стаўся самым цяжкім, нібы апошнім іспытам на выжыванне. Супрацьстаянне стала адкрытай барацьбой, праўда, дзякуй Богу, толькі на старонках газет ды ў выглядзе вусных выступленняў. Страсці пачалі разгарацца на пачатку навучальнага года, у верасні. Выступаючы перад студэнтамі педуніверсітэта, будучымі настаўнікамі, прэзідэнт міласціва даў дазвол, які, мякка кажучы, ідзе ўразрэз з палажэннямі Закону: хто на якой мове хоча, на такой і выкладае. Тады група студэнтаў і выкладчыкаў, пратэстуючы супраць гэтай заявы, пакінула залу. Але нямала было і тых, што сустрэлі гэтыя словы апладысментамі... А потым пачаліся выступленні бацькоў у Віцебску, Брэсце, Магілёве. Яны, пратэстуючы супраць беларускамоўнага навучання, не пусцілі дзяцей у школу, зрабілі "дзіцячую забастоўку". (Цікава толькі, ці многія з першакласнікаў разумелі, чаму не трэба ісці на заняткі?)... А потым 6 снежня "Советская Белоруссия" на першай паласе амаль у якасці перадавога змясціла артыкул спецкарэспандэнта "Правды" А.Сцепаненкі "Мама, возьми гадильник!". Артыкул быў напісаны ў абарону інтарэсаў тых бацькоў, але, божа мой, якім пагардлівым тонам гаварылася ў ім аб беларускай мове. Аўтар артыкула ўзгадаў і Канстытуцыю, і Прэзідэнта ў якасці патэнцыяльных абаронцаў правоў рускамоўных бацькоў. А як самы важкі аргумент непрымання беларускай мовы Сцепаненка прывёў недзе падслуханую памылку сямігадовага дзіцяці, якое сказала замест слова "гадзіннік" — "гадзільнік": маўляў, што гэта за мова, як брыдка гучыць! Памылку дзіцяці вынеслі ў якасці загалоўка на першую паласу рэспубліканскай газеты і зрабілі вывады агульнадзяржаўнага маштабу...

Ніякага рэзанансу з боку ўлад афіцыйных не прагучала. Бацькоў, што не пускалі дзяцей у школу, а, значыць, фактычна выступалі супраць Закону, не спасцігла ніякае спагнанне, яны, я думаю, дагэтуль упэўнены, што праўда на іх баку. Сп.Сцепаненка працягвае пісаць матэрыялы, што нярэдка закранаюць гонар дзяржавы, у якой ён жыве і сам... Законапавага і паслухмянасць нярэдка дыктуюцца сёння законабаязлівасцю. Калі апошняе паняцце адсутнічае, паступова спыняюць сваё існаванне і два першыя...

Вядома, усе гэтыя з'явы не засталіся без увагі грамадскасці. Людзі, неабыякавыя да роднай мовы, у канцы мінулага года стварылі Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы. Ініцыятары яго стварэння — 26 грамадскіх і грамадска-палітычных арганізацый. У Закону з'явіліся моцныя абаронцы. "У Беларусі ёсць людзі, якія абароняць беларускую мову і нацыю ўсімі магчымымі сродкамі", — гаворыцца ў заяве камітэта, якую цэнтральныя газеты надрукавалі ў сярэдзіне студзеня. Шкада толькі, што абарона гэта не носіць афіцыйнага, дзяржаўнага характару. Камітэт не мае паўнамоцтваў караць тых, хто з непавагай ставіцца да мовы і парушае Закон. Тым больш "усімі магчымымі сродкамі".

Сіла камітэта — у слове. У публічных заявах, адкрытых лістах да высокіх дзяржаўных асоб. Але нават гэтыя важкія словы нярэдка губляюць задуманую значнасць, таму што пытанне абароны мовы вельмі цесна звязваецца з вялікай палітыкай і адсоўваецца тым самым на другі план. У адкрытым лісце міністру адукацыі і навукі ("Народная газета", 19 студзеня) ініцыятыва ўвядзення абавязковага вывучэння рускай мовы з першага класа расцэньваецца Камітэтам як "палітычны крок антыбеларускай накіраванасці", як "ператварэнне беларускае школы ў арэну міжнацыянальнае варажнечы". І ні слова пра першакласнікаў, якім сапраўды было б цяжка вучыць аднačасова дзве родныя мовы. Было б, калі б не той факт, што рускай мовы плануецца ўвесці трыццаць гадзін вуснага курса на год (або гадзіна на два тыдні). І гэту гадзіну (дакладней, 45 хвілін) настаўнікі будуць чытаць дзецям казкі на рускай мове, праводзіць займальныя гульні. Ніякай шкоды гэтыя ўрокі не прынясуць, калі астатнія прадметы будуць выкладацца строга па-беларуску, а не хто на якой "ХАЦИТ"... Канешне, сёння цяжка не звязваць паміж сабой праблемы мовы і палітыкі і тым самым засцерагчыся ад гратэску ў некаторых выпадках. Тым больш што афіцыйная ўлада не на баку прыхільнікаў Закону аб мовах. Хутчэй наадварот...

Самым яскравым прыкладам таго для многіх грамадзян стала даволі вядомае пікетаванне ў падтрымку нацыянальнай школы ля сцен педагагічнага ўніверсітэта і Міністэрства адукацыі 4 студзеня. Дакладней, не само пікетаванне, а яго вынік. Мікола Савіцкі, старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ, быў затрыманы далёка не ў ветлівай форме і адведзены ў аддзел міліцыі як парушальнік грамадскага парадку. Сапраўды, санкцыянаванае гарсаветам пікетаванне ледзь не стала стыхійным выступленнем у падтрымку галоснасці. Але арыштавалі менавіта арганізатара пікета ў падтрымку беларускамоўнага навучання. Праўда, хутка выпусцілі. Недарэчная выпадковасць? Здаецца, сёння так думаюць нямногія.

Не лічачы камісіі пры Вярхоўным Савеце і вельмі нешматлікіх інспектараў пры выканкамах, фактычна больш ніхто не мае паўнамоцтваў афіцыйна, на дзяржаўным узроўні кантраляваць выкананне Закону аб мовах. А сам Закон, як бачым, бывае "па-за законам".

Супрацьстаянне працягваецца. І наступнае пакаленне яшчэ будзе стаяць па розных баках гэтай дзіўнай, незразумелай чалавеку не беларускаму барацьбы. Старшакласнікі, што праз 7 — 10 гадоў будуць адпраўляць сваіх дзяцей у школу, сёння ў большасці сваёй вучацца па-руску. А гэта шмат што значыць. З 15 апытаных мной адзінаццацікласнікаў вясковай рускамоўнай школы за беларускую мову навучання для сваіх будучых дзяцей выказаліся толькі два чалавекі. Што ж тады казаць пра гарадскіх? У 195-й школе-гімназіі Мінска адзінаццацікласнікі выпускалі антыбеларускую "падпольную" газету "Пена". Вядома, калі раскрылі гэта "выданне", падняўся вялікі вэрхал. Адразу падключылася камісія гарвыканкама па адукацыі і культуры, але... меры, якія яны могуць прыняць, у большасці сваёй растлумачальныя. Наўрад ці тлумачэнні прымусяць гэтых маладых людзей змяніць сваю пазіцыю. Не дзіўна будзе, калі праз колькі гадоў яны не будуць пускаць дзяцей у беларускія школы, адчуваючы пры гэтым, што праўда на іх баку і што на іх няма ўправы...

Сёння Закону аб дзяржаўнай мове, як нікому, патрэбна абарона і падтрымка дзяржавы. Толькі пры такой умове можна быць упэўненым, што супрацьстаянне не скончыцца сапраўднай бойкай.

А наогул, давайце верыць у народныя прыкметы. Яны мудрыя і амаль заўсёды здзяйсняюцца. Закон адсвяткаваў пяцігоддзе — значыць, будзе жыць і дзейнічаць, з кожным годам набіраючы сілу.

Дзеці ходзяць у беларускія школы і будуць хадзіць. Сёлета ўжо 70 працэнтаў першых класаў вучацца па-беларуску. Яны навучацца гаварыць слова "гадзіннік" — падкажуць педагогі, калі не бацькі. Толькі як бы апошнім не пачуць пасля ад дзяцей папрок, што не дапамаглі, не растлумачылі, што не пускалі ў школу і смяяліся з мовы, на якой размаўляла з імі першая настаўніца. Ужо сёння нашы дзеці пішуць на снезе свае імёны згодна з беларускім правапісам. Ужо сёння, гуляючы "ў школу" са сваімі малодшымі сябрамі, яны гавораць: "Добры дзень, дзеці. Пачнем наш урок". І наўрад ці калі-небудзь уявяць, што іхнім дзецям настаўніца скажа інакш.

**Алеся КЛІМОВІЧ**







**М.ГАЛКОЎСКІ:** Але чаму не асабліва шукаюць і зараз?

**В.ІПАТАВА:** Пошукаў, мабыць, сапраўды вядзецца няшмат, але цяпер паехаць у польскія архівы — амаль недаступная раскоша для нашых даследчыкаў.

**М.ЗЮЛКОЎСКІ:** Мне цікава назіраць, наколькі ў сучаснай Беларусі (не за "польскім часам", а менавіта цяпер, калі ў грамадстве зусім другая парадыгма, чым сто гадоў таму) ідзе асэнсаванне польскасці і расійскасці. На маю думку, гэта трэба рабіць не інтуітыўна, а мэтанакіравана, як прадмет грамадскай камунікацыі, — так, як ідзе зараз асэнсаванне беларускасці. І рабіць гэта, нягледзячы на непрыняцце такой асэнсаванасці пэўнаю часткаю грамадства, бо гэта важна для Беларусі як суверэннай краіны. І яшчэ цікава разважаць — ад гэтай парадыгмы, якая засталася ў сялянскай культуры, пра якую казаў сп.Дранько-Майсюк, прарастаюць у беларускай культуры якія-небудзь парасткі? Іншымі словамі, наколькі вам патрэбная польская культура і ці патрэбная яна сёння ўвогуле, скажам, у параўнанні з французскай ці іншымі культурамі? І ці не ўзнікае пры яе з'яўленні думак пра нейкую там паланізацыю?

**В.ІПАТАВА:** Думаю, што польскасць не будзе выклікаць ні ў кога пярэчання, калі яна не звязана з прапагандай ідэі, што гэтая зямля — прыналежнасць Польшчы. Асабліва гэта тычыць набажэнства ў касцёлах. Нашы бацюшкі гавораць па-расейску, і ў дадатак, прыязджаючы на Беларусь, ксяндзы таксама гавораць па-расейску або па-польску. Дарэчы, самую гарачую прыхільнасць выклікаюць на радыё набажэнствы па-беларуску, якія праводзяцца святарамі касцёла Алены і Сымона.

**В.СЁМУХА:** Калі нашы цэрквы пяройдуць на беларускую мову, цяжка сказаць. Пакуль што беларускасць выклікае шалёнае процідзеянне.

**М.ЗЮЛКОЎСКІ:** Мне здаецца, што якраз гэтае пытанне не мае адносін да польскай культуры. Гэта вашы ўнутраныя справы: рашаць, на якой мове будзе весціся набажэнства. З другога боку, мы ў Польшчы ўжо пачынаем прыходзіць да высновы, што касцёл павінен быць аўтаномным, дзяржава не ўмешваецца ў яго справы, і толькі вернікі рашаюць, на якой мове гаварыць з Богам. Увогуле, у кананічных тэкстах нічога не гаворыцца пра мову.

**Л.ДРАНЬКО-МАЙСЮК:** І ўсё ж мушу адзначыць, што, дзякуй Богу, у нас усе канфесіі існуюць мірна. Простыя вернікі-каталікі разумеюць простых вернікаў-праваслаўных куды лепей, чым іхнія пастыры, ужо не кажучы пра палітыкаў. Славутая беларуская талерантнасць тут якраз вельмі дарэчы. І я радуюся гэтаму, як і таму, што мітрапаліт Філарэт, узыходзячы на трыбуну, гаворыць колькі можа па-беларуску, і таму, што некаторыя ксяндзы таксама спрабуюць гаварыць па-беларуску...

**В.СЁМУХА:** Але калі царква падтрымлівае казакаў у Віцебску, то гэта ўжо палітыка.

**Л.ДРАНЬКО-МАЙСЮК:** Цікавасць да французскай культуры ў нас больш рацыянальна-свядомая, да польскай жа — генетычная. У гэтым розніца. І гэтую цікавасць трэба толькі абудзіць. Таму, мне здаецца, пасольства магло б праводзіць больш усялякіх культурніцкіх акцый. Я за тое, каб на беларускім радыё кожны дзень па-польску гучалі вершы Міцкевіча, Норвіда.

**В.СЁМУХА:** Мы, беларусы, вельмі адкрытыя да суседніх культур.

**М.ЗЮЛКОЎСКІ:** Мне здаецца, што можна гаварыць і пра паланізацыю ў эстэтычным сэнсе касцёла ў самой Польшчы. Як і кожная культура, касцёлы акумулююць лакальныя народныя культуры, архетыпы і г.д. Польская культура ўяўляе народна-вызваленчую парадыгму, у нечым нават месіянскую.

**В.СЁМУХА:** У эстэтычным сэнсе паланізацыі мы не баімся. Чым болей польскай культуры будзе на Беларусі, тым лепей, як і любой іншай. Але палітычныя прэтэнзіі — гэта страшна для нас.

**М.ГАЛКОЎСКІ:** Мне дзіўна слухаць пра паланізацыю, таму што ў Польшчы ніхто не хоча паланізаваць ні Літву, ні Беларусь, ні ўвогуле ніякую іншую краіну. Але, канешне, я б хацеў у сэнсе культуры паланізаваць вашу краіну — гэта ж частка маёй работы. І столькі, колькі змагу. У нас нідзе няма такіх заяў, што трэба было б далучыць кавалак Беларусі да Польшчы ці нейкай іншай краіны за кошт трэцяй. Таму паланізаваць вашу палітыку ў сэнсе руху наперад было б таксама нядрэнна... А калі не жартам — мы падпісвалі трактат з вашай краінай, і гэта ўжо святое правіла для палітыкі — прытрымлівацца заяўленага. І мы не робім ніякіх крокаў, якія б пярэчылі ўмовам нашых дамоўленасцей.

Але складанасці, вядома, ёсць. Вы кажаце, што ксяндзы вядуць набажэнствы на польскай мове. Але ж часта яны, апроч яе, іншай не ведаюць. З другога боку, палякі на Беларусі гавораць аб тым, што яны хацелі б слухаць набажэнствы па-польску (што, наколькі мне вядома, робіцца толькі ў кальварыйскім касцёле). Чаго ў вашай краіне мала і што мне хацелася б неяк выправіць — каб тут мелі магчымасць рэгулярна атрымліваць польскую прэсу, мець магчымасць чытаць самыя новыя, "гарачыя" выданні, кнігі. Але пакуль гэта, з-за рознасці цэнаў, амаль нерэальна.

**М.ЗЮЛКОЎСКІ:** Пакуль няма і палітычнага рашэння гэтай праблемы. Польская дзяржава, паводле пэўных міждзяржаўных пагадненняў, павінна фармаваць польскую культуру на Беларусі, клапаціцца аб ёй на дзяржаўным узроўні, браць на сябе арганізацыю кнігарняў, распаўсюджанне літаратуры. Але пакуль такіх пагадненняў няма, толькі стаіць пытанне аб гэтым, як і аб тым, ці патрэбна гэта для беларусаў. Тым больш, што беларусізацыя ідзе аднačасна з пэўнай міфалагізацыяй нашай агульнай гісторыі. Я маю на ўвазе кнігу "Сто пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі", некаторыя падручнікі.

**В.СЁМУХА:** Яна адлюстроўвае наш генетычны страх перад паланізацыяй і русіфікацыяй. Мы аднаго баімся — знікнуць як нацыя. Вам гэты страх не зразумелы — вас 30 мільёнаў.

**Л.ДРАНЬКО-МАЙСЮК:** Вядома, у нашых гісторыкаў з'яўляюцца нейкія спецыфічныя погляды на нашу агульную гісторыю, але палітыкі за гэтым не стаіць, а ёсць толькі жаданне заявіць аб тым, што ў Беларусі — уласная гісторыя.

**М.ЗЮЛКОЎСКІ:** У польскай культуры ўсё болей з'яўляецца таго, што ёсць неад'емнай часткай сённяшняй культуры ўвогуле — інфарматыўнасці, пашырэння агульнай прасторы культуры. Рэфармуецца эканоміка, тэхналогіі, і гэта не можа не адбівацца на ўсім ладзе жыцця. Шэсць гадоў таму мы ўзялі эканамічны накірунак і пайшлі наперад. Абмен ці экспарт таго, што напрацавана ў нас у галіне культуры (узяць, да прыкладу, польскае кіно), былі б карысныя для Беларусі. Культуру тут я сапраўды стаўлю на першае месца, бо не матэрыя вызначае думкі, але наадварот — дух вызначае матэрыю. І ўсё ж польскі экспарт на Беларусі займае толькі 0,2 працэнты гандлёвага абароту нашай краіны, і нашы эканамічныя інтарэсы ў першую чаргу скіраваныя на Захад, а не сюды, да вас. Якія прычыны? Іх шмат, і першая — мы за гэтыя гады пайшлі далёка наперад, нашы эканомікі ўсё болей розняцца.

*І ўсё ж удзельнікі "круглага стала", працяглы час прадыскутаваўшы аб эканоміцы, зноў вярнуліся да праблем культуры. Агульная выснова — нашы кантакты трэба пашыраць. І весці такія сустрэчы і дыскусіі, бо нават тое, што закранута ў гэтай гаворцы, заняло б некалькі нумароў. Таму рэдакцыя вырашыла праводзіць такія "сталы". Спадзяемся рэгулярна звяртацца да чытачоў з просьбай прыняць у іх удзел.*

**Матэрыялы "круглага стала" падрыхтаваў Ягор ФЯДЗЮШЫН**

*На здымках (злева направа):* Марэк Галкоўскі, Вольга Іпатава, Васіль Сёмуха, Марэк Зюлкоўскі, Леанід Дранько-Майсюк.

АРХІЎ

Якаў ЛЕНСУ

# ТЭАТР РЭЧАЎ, ЦІ МІНУЛАЯ ЭПОХА ПРАЗ РЭЧАВЫ СВЕТ

## РАЗВАГІ ДЫЗАЙНЕРА

***Яшчэ гарацъ рубінавыя зоркі на вежах Маскоўскага Крамля, яшчэ на галоўным праспекце Мінска з гранітнага п'едэстала паглядае ў задуменні "Жалезны Фелікс" на велічны адміністрацыйны гмах без шыльды, але эпоха, што нарадзілася ў кастрычніку 1917-га, скончылася. Беззваротна пайшла ў гісторыю... Што яна дала? Прыгожыя гарады і забруджаную прыроду, буйныя навуковыя дасягненні і прыклады шалёнага валюнтарызму невуцтва, вялікія подзвігі народа і страшэнныя злачынствы ўлады... А яшчэ, як і кожная эпоха, нарадзіла яна свой, непаўторны рэчавы свет,свет матэрыяльных прадметаў, які акаляў савецкіх людзей на працягу гэтых сямідзесяці пяці гадоў. Былі тут і рэчы выдатнай мастацкай якасці, і не вельмі высокага густу, і яўны "кіч", але ўсе яны былі адбіткам эпохі, своеасаблівым люстэркам жыцця. Таму адна рэч пры ўважлівым разглядзе можа больш расказаць нам пра эпоху, чым дзесятак гістарычных навуковых прац. Давайце ж паспрабуем прачытаць гэты прадметны аповяд адыходзячай эпохі.***

### "ЖАЛЕЗНЫ КОНЬ"

Скончылася грамадзянская вайна. Знявечаная краіна пацiху ажывала. У гарадах адраджаліся заводы і фабрыкі. Сялянскія арцелі-камуны, што нарадзіліся ў тыя гады, атрымалі першыя савецкія трактары.

Гэтую невялічкую сельскагаспадарчую машыну з казачнай назвай "Гном" стварыў расійскі канструктар Я.Мамін. Ён яшчэ да першай сусветнай вайны валодаў прадпрыемствам па вырабу трактараў, якія па сваіх якасцях маглі канкурыраваць з лепшымі замежнымі машынамі тае пары, але выпускаліся вельмі малымі партыямі. У канцы 1917 года Камісія па харчаванні Расійскай Федэрацыі адшукала былога ўладальніка трактарнага прадпрыемства і прапанавала яму арганізаваць вытворчасць невялікіх танных трактараў для сельскагаспадарчых таварыстваў. Так Мамін стаў тэхнічным кіраўніком на заводзе, які да рэвалюцыі яму ж і належаў, дзе стварыў свайго "Гнома".

Вось ён, першынец савецкага трактарабудавання: тры жалезныя колы — два вялікія ззаду і адно малое спераду. Колы вузкія з тонкімі спіцамі, зусім як у карэты. Наогул форма трактара вельмі простая, у ёй праломлена адбілася заўостранасць сацыяльных працэсаў тае пары, адлюстравалася спартанская суровасць жыцця першых паслярэвалюцыйных гадоў. Кабіны машына не мела, трактарыст размяшчаўся пад адкрытым небам на цвёрдым сядзенні без спінкі. Перад ім руль і труба для выхлапных газаў. Спераду бак для нафтавага паліва. Матор і сістэма прываду хаваюцца пад нагамі трактарыста паміж вялікіх задніх колаў. Вось і ўся канструкцыя. Сапраўды, гэтая машына была разлічана на любога неадукаванага селяніна. "Сістэма рухавіка настолькі простая, што мы не маем ні манцёра, ні паказальнай кнігі і спраўляемся самі без машыніста", — сведчылі тагачасныя сяляне. Такія трактары ўжываліся ў 20-я гады і ў Беларусі, дзе тады пачалі ствараць арцелі па сумеснай апрацоўцы зямлі.

Невялічкі "жалезны конь" на колах з тонкімі спіцамі, зручны і просты да прымітыўнасці, знаёмы нам па паслярэвалюцыйных плакатах і першых савецкіх кінафільмах — цікавы сімвал жорсткага і шалёнага паслярэвалюцыйнага часу. Шмат у чым наіўная гордасць дасягненнямі індустрыялізацыі шырока адлюстроўвалася ў 20-я і пачатку 30-х гадоў у рэчавым [illegible] савецкай краіны. Так, нашы [illegible] насілі сукенкі з матэрыі з малюнкамі трактарных колаў і саміх трактараў, бягучых па светлым, як вячэрняе неба, палатне. Гарбату пілі з кубкаў з выявамі тых жа трактараў, цягнікоў і іншых сімвалаў прамысловага прагрэсу, верай у які прасякнута ўсё тагачаснае жыццё.

### ПРАСТАТА І СТАНДАРТНАСЦЬ

У 20-я і 30-я гады была разбурана цвярдыня некалі ўсталяваўшыхся форм раскладу ў асабістым і грамадскім побыце. А гэта ў сваю чаргу прывяло да пошукаў новага рэчавага свету, стылю, адлавядаючага духу часу.

На міжнароднай выставе ў Парыжы, якая праходзіла ў 1925 годзе, у павільёне СССР усеагульную ўвагу прыцягвала распрацаванае савецкім дызайнерам А.Родчанкам абсталяванне для рабочага клуба. Гэтая комплексная распрацоўка ўключала арыгінальныя па канструкцыі сталы, крэслы, вітрыны, сценкі-экраны, свяцільні і шмат чаго іншага. Але ці не самым цікавым у абсталяванні, што зрабіў Родчанка, быў шахматны столік з ёмістасцямі, які складаў адзінае цэлае з двума сядзеннямі. У ёмістасцях, што размяшчаліся па баках століка, захоўваліся шахматныя фігуры. Сам столік, на які былі нанесены клеткі ігральнай дошкі, рухома замацоўваўся на восі, за кошт чаго ў непрацоўным стане адкідваўся і займаў вертыкальнае становішча. Канструкцыя сядзенняў складалася з металічных трубак і драўляных дошчачак. Аб'ект вылучаўся рацыянальнасцю пабудовы і гарманічнасцю формы. Сам аўтар так характарызаваў свой творчы падыход да формаўтварэння распрацаванага ім клубнага абсталявання: "Прастата выкарыстання рэчы і стандартнасць рэчы пры неабходнасці пашырыць ці павялічыць колькасна асобныя яе часткі... Зыходзячы з гэтых патрабаванняў, амаль усе рэчы пабудаваны на рухомым прынцыпе, ён дае магчымасць разгарнуць прадмет у яго рабоце на большую плошчу і кампактна скласці яго па заканчэнні работы. Гэты прынцып я лічу адной з тыповых прыкмет, уласцівых сучаснай рэчы."

Тварэнне піянера савецкага дызайну А.Родчанкі — прыклад прарыву ў свет новых эстэтычна асэнсаваных тэхнічных форм, які адбыўся ў савецкай краіне ў першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе ў асяроддзі мастакоў-"производственников", якія паставілі мэтай яднанне мастацтва са штодзённым жыццём. Мастакі-"производственники", якія сталі першымі савецкімі дызайнерамі, ішлі працаваць на прамысловыя прадпрыемствы, дзе стваралі праекты вырабаў, якія характарызаваліся зручнасцю і прыгажосцю формы. Развіццю і станаўленню гэтай плыні шмат у чым паспрыялі распрацаваныя ў пачатку 20-х гадоў у Віцебскім мастацка-практычным інстытуце ў асяроддзі сяброў групы УНОВИС (утвердители нового искусства) тэарэтычныя і метадычныя ідэі маладога прамысловага мастацтва, што нараджалася ў тыя гады. На жаль, гэтая плынь у савецкім прамысловым мастацтве існавала нядоўга — як і іншыя "фармалістычныя" мастацкія кірункі, яна была ліквідавана сталінскай таталітарнай машынай.

### ДАЛЕЙ ЗА ЎСІХ, ХУТЧЭЙ ЗА ЎСІХ...

У другой палове 30-х гадоў маладому ўдарніку-машыністу, дэлегату X з'езда камсамола, у якасці ўзнагароды ўручылі "імянны" паравоз "ФД". Лакаматыў быў пафарбаваны цалкам у блакітны колер, збоку машыну прарэзвала белая паласа, а на катле выведзена гордае імя "Блакітная птушка". "Паравозам будучыні" назвала гэты цягнік тагачасная савецкая прэса.

"Блакітная птушка" была тыповым прыкладам савецкага дызайну 30-х гадоў, калі ў СССР быў ужо зруйнаваны рух піянераў мастацкага канструявання, дзеячаў "вытворчага" мастацтва. Адвергнуўшы творчасць мастакоў-"производственников" 20-х гадоў, савецкая матэрыяльна-мастацкая культура страціла наватарскі, глыбока гуманістычны падыход да фармавання рэчавага асяроддзя, які аб'ядноўваў тонкі эстэтызм з функцыянальнай практычнасцю. Дызайн 30-х быў накіраваны на праектаванне рэчаў для выбраных, у ім было нешта ад выхвалення, ён меў нейкі "агітацыйна-рамантычны" характар, развіваўся ў яўна прапагандысцкім ключы. Калі праекты мастакоў-"производственников" прадугледжвалі рэалізацыю ў серыйнай прадукцыі для шырокіх народных мас, то стварэнні мастакоў "агітацыйнага" дызайну звычайна ўяўлялі сабою унікальныя мадэлі, створаныя ў адным-двух экземплярах. Яны прызначаліся не для масавага выкарыстання, а для паказальных дэманстрацый.

Да такога ж "агітацыйнага" дызайну можна аднесці і створаны ў 1934 годзе ў бюро Тупалева гіганцкі самалёт АНТ-20 "Максім Горкі", для таго часу самы буйны аэраплан свету. Гэты гігант прызначаўся для абслугоўвання палітычных кампаній (святаў, маніфестацый і да т.п.), папулярызацыі паветранага флоту савецкай краіны, удзелу ў падпісцы на займы індустрыялізацыі. Самалёт умяшчаў 80 пасажыраў, у ім меліся спальныя памяшканні, друкарня для друку ўлётак, моцная радыёстанцыя "Голас неба". Інтэр'ер аэраплана і яго знешняе афармленне, уключаючы агітацыйную графіку, былі вырашаны з дапамогаю мастакоў.





Усе стварэнні "агітацыйнага" дызайну 30-х гадоў былі грандыёзныя па размаху тэхнічнага абсталявання, значныя па памерах, кідкія ў афармленні. Аднак было ў гэтым нешта несапраўднае, хімерычнае, блізкае да "калоса на гліняных нагах". У гэтым плане сімвалічны лёс самалёта-гіганта "Максім Горкі". У час аднаго з парадаў у Маскве, сутыкнуўшыся з самалётам суправаджэння, ён развaліўся на кавалкі і на жах усім, хто гэта бачыў, рухнуў на зямлю каля самай Краснай плошчы.

### "ШАПКА МАНАМАХА" І КАНАПА-МОНСТР

30-я і 40-я гады — час узмацнення савецкай імперыі, развіцця і ўмацавання таталітарнай сістэмы, культу "бацькі народаў" Сталіна. Гэтыя працэсы нарадзілі новы лад жыцця, які адбіўся і ў формах рэчавага свету. Вуліцы савецкіх гарадоў забудоўваюцца велізарнымі пампезнымі гмахамі, ад якіх дыхала холадам і сумам. У гэтыя гады ў архітэктуры і прадметным формаўтварэнні склаўся нейкі манументальны стыль, які атрымаў неафіцыйны назоў "сталінскі ампір". Гэты стыль актыўна падтрымліваўся кіраўніцтвам партыі і савецкім урадам. Архітэктурнай напышлівасцю характарызавалася не толькі знешняе аблічча гарадоў, але і інтэр'ер, — у прыватнасці абсталяванне службовых кабінетаў і прыватных кватэр.

... Кабінет патанае ў цемры. Ужо глыбокая ноч. У трыццатыя гады многія ў савецкай краіне працуюць далёка запоўнач. Гэты рэжым задае Крэмль, дзе "бацька народаў" не спіць на працягу ўсёй ночы. Не спіць і гаспадар гэтага кабінета. На стале гарыць настольная лямпа. З-пад вялікага абажура яна кідае на стол шырокі светавы круг. Лямпа агромністая, манументальная па форме. Точанае аснаванне зроблена з дубу, высокая драўляная стойка ўпрыгожана разьбой. Круглы абажур — сапраўдны шэдэўр мастацтва. Сам ён зроблены са шкла, па форме нагадвае знакамітую "Шапку Манамаха". У тым месцы, дзе ў царова вянца футравая апуха, у лямпы ідзе накладны металічны дэкор у выглядзе дубовых лісцяў. Вянчае свяцільню, як шпіль, дэкаратыўнае наверша. Каму ж належыць гэтая лямпа? Чый гэта стол? Чый кабінет? А гэта не так і важна. Тады амаль ва ўсіх салідных кабінетах стаялі такія лямпы. Гэткія свяцільні былі своеасаблівым адбіткам эпохі. Іх напышлівасць, манументальнасць павінны былі ўвасабляць веліч і трываласць існуючага ладу. І кожны ўладальнік такой лямпы адчуваў сябе прыналежным да тых вялікіх стварэнняў, што адбываліся ў краіне. Схіляўся каля гэткай свяцільні над спісанымі паперамі сівы акадэмік. Уключаў такую лямпу сакратар райкома, каб праштудзіраваць у "Правде" чарговы даклад правадыра. Шчурыў вочы на святло гэткай жа лямпы суровы НКВДэшнік, ведучы допыт трапіўшага ў няласку сівога военачальніка, якому зусім нядаўна апладзіраваў на ўрачыстым пасяджэнні. Шмат маглі б расказаць гэтыя свяцільні, калі б умелі гаварыць. Але яны маўчаць, глыбока насунуўшы на лямпачкі абажуры...

У прыёмнай тоўпіцца народ. Усе маўкліва чакаюць сваёй чаргі. Адны падліраюць памаляваныя шэрай алейнай фарбай сцены, другія прымасціліся на цвёрдых крэслах, але некаторым пашанцавала размясціцца на агромністай абабітай чорнай скурай канапе. А можа гэта зусім і не канапа, а нейкае архітэктурнае збудаванне: высокая спінка-гмах з шырокім драўляным лакіраваным карнізам, па баках пукатыя цыліндрычныя валікі-порцікі, моцныя точаныя ножкі фігурнай формы, быццам невялікія калоны. Гэты драўляны спружынны волат, які адзеты ў чорную, пацёртую тысячу дакрананняў скуру (нібы камісар у знакамітым "кажане") — гордасць цеснай прыёмнай. Без яго яна б выглядала бедна і непрывабна. З ім жа пакой набывае саліднасць, значнасць. Чалавек, які ўваходзіць сюды, заўважыўшы гэтага чорнага монстра, адразу ж разумее, што трапіў у "сур'ёзную" ўстанову, дзе з ім жартаваць не стануць. Ох і вялікая ж справа мэбля!

Але гэткія ж канапы-монстры ў 30 — 40-я гады стаялі не толькі ў дзяржаўных установах. Амаль такія ж былі і ў многіх дамах савецкіх людзей таго часу. Але калі ў кватэрах адказных работнікаў яны ўвогуле нічым не адрозніваліся ад тых, што стаялі ў райкомах, выканкомах, сабесах і інш., то радавыя савецкія служачыя стараліся неяк пазбавіцца ад іх занадта афіцыйнага выгляду. Клапатлівыя гаспадыні шылі на іх з матэрыі чахлы, якія ўпрыгожвалі валанамі і рушачкамі, на палічку, што мацавалася на версе высокай спінкі, старанна расстаўлялі сямейныя фотаздымкі, гіпсавыя ці фарфоравыя фігуркі галубкоў, слонікаў. І суровы скураны волат цяпер ужо больш нагадваў сімпатычную шыраказадую цётухну ў доўгай сукенцы з аборкамі і ў хатнім чапцы. Не, не жадаў народ жыць у халодным асяроддзі велічна-манументальных рэчаў, ён імкнуўся да ўтульнасці і цеплыні рэчавага свету. Хаця б у ягоным жытле.

### ГАВОРЫЦЬ МІНСК...

Але даваенная прамысловасць краіны ведала і сапраўдныя дасягненні ў стварэнні шэрагу складаных тэхнічных аб'ектаў, якія, з аднаго боку, былі дасягненнямі прамысловасці на сусветным узроўні, а з другога — як прадметы шырокага ўжытку ўваходзілі ў дамы простых людзей.

Радыё. У даваенныя гады, калі не гарэў яшчэ ў кватэрах савецкіх людзей "блакітны агеньчык", гэта быў адзін з галоўных каналаў сувязі з вонкавым светам. Тады нярэдка, як мы цяпер ля тэлевізара, збіраліся ўсёй сям'ёй ля прыёмніка — слухалі радыёпастаноўкі, канцэрты, з заміраннем сэрца ўслухоўваліся ў трывожныя навіны з палаючай Іспаніі. Вельмі распаўсюджаны былі ў той час характэрныя "талеркі"-дынамікі, якія вешаліся дома на сценцы. Класныя ж радыёпрыёмнікі з'яўляліся своеасаблівай гордасцю сям'і.

Віхрасты юнак з камсамольскім значком на лацкане чорнай вельветавай курткі ўпэўнена круціць ручку настройкі радыёпрыёмніка, з глыбіні якога нясуцца, хутка змяняючы адзін аднаго, гукі то сімфанічнай музыкі, то нейкага народнага спеву, то далёкай гаворкі на чужынскай мове. А вось ужо па-беларуску: "Гаворыць Мінск! Перадаем апошнія паведамленні. Сёння таварыш Панамарэнка наведаў горад Брэст, дзе на зямлі Заходняй Беларусі, народ якой ужо год як аб'яднаўся са сваімі ўсходнімі братамі..." Мякка гучыць голас дыктара, рэзанансна аддаючыся пад паліраванай крышкай радыёпрыёмніка, над шкалой настройкі якога можна прачытаць назву: "Маршал". Гэткія вялікія, моцныя прыёмнікі робяць у Мінску на першым у Беларусі радыёзаводзе, які ўзнёсся на старой Камароўцы на месцы былой лесапільна-мэблевай фабрыкі. Першую прадукцыю завод пачаў выпускаць у 1940 годзе. Радыёпрыёмнік "Маршал" — адзін з першынцаў прадпрыемства. Выгляд прыёмніка і сапраўды "маршальскі": драўляны лакіраваны корпус вялікіх памераў, спераду буйная акустычная рашотка з тонкіх, таксама лакіраваных рэек, знутры зацягнутая матэрыяй нярказа прыгожага адцення, на пярэдняй панелі знізу тры вялікія ручкі настройкі з заглыбленнямі для захвату пальцамі, шкала хваляў скампанавана ў вертыкальным напрамку і знаходзіцца на восі сіметрыі пярэдняй панелі прыёмніка, што надае яго кампазіцыі асаблівую ўраўнаважанасць. Ва ўсім вонкавым выглядзе рэчы адчуваецца велічнасць і надзейнасць. А надзейнасць і сапраўды была адметная. Сёння адзін з экземпляраў "Маршала" захоўваецца ў музеі вытворчага аб'яднання "БелВАР", пераемніка першага мінскага радыёзавода, — радыёпрыёмнік, якому ўжо больш за пяцьдзесят гадоў, працуе як новы, у ім не зменена яшчэ ніводная лямпа.

Так, няшмат тады ў Савецкім Саюзе выпускалася прадметаў хатняй тэхнікі, але якасць іх, часцей за ўсё, была выдатная. Гэтая элітная галіна прамысловасці была пад асабліва высокім кантролем высокага кіраўніцтва краіны. Адсюль — высокая адказнасць вытворцаў.

*(Далей будзе)*

